Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ат 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 15 Вільня, Серада, 9-га чэрвеня 1926 г. Год I.

## Пасьля першага кроку.

У пятніцу, 4-га чэрвеня новаабраны прэзыдэнт, праф. Мосьціцкі, прысягнуў на вернасьць Польскай Рэспублiцы і яе Канстытуцыі, прысягнуў, што *„справядлівасьць для усіх—бяз ніякае розьніцы—грамадзян“ мець будзе за „першую для сябе цноту“*, і—прыняў з рук часовага заступніка прэзыдэнта, маршалка Сойму Ратая, найвышэйшую ў дзяржаве ўладу.

Гэтак зроблены маршалкам Пілсудскім аружны пераварот можна лічыць *фармальна* зьліквідаваным. Газэты наказуюць, што навет такая непрымірымая дагэтуль Пазнаншчына здаволена гэтым *фармальным* выхадам з палажэньня і падпарадкавалася новаму прэзыдэнту.

А як-жа справа прадстаўляецца *фактычна*—на дзеле? Ці пераварот не пакінуў тут запраўды ніякіх сьлядоў?....

На гэтае пытаньне трэба даць рашучы адказ: хаця фармальна ўсё вярнулася да стану, які існаваў да перавароту і быў абаперты на дзяржаўнай канстытуцыі, — фактычна далёка ня ўсё асталося так, як было.

Ужо самы факт пераносу мейсца прысягі прэзыдэнта з гмагу Сойму ў стары *каралеўскі замак* зьяўляецца вельмі красамоўным сымвалам новага палажэньня, і манархічнае „Słowo“ зусім справядліва бачыць у гэтым кроку прэзыдэнта Мосьціцкага (—бо-ж ён *сам* загадаў гэта зрабіць, ня гледзячы на зусім адменную пастанову Сойму....) — знак, што „гмах Сойму перастаў быць сувэрэнным мейсцам;—стаецца ім Замак“. Гаворачы звычайным чалавечым языком, тая ўлада, якой выбаршчыкі надзялілі сваіх выбранцаў — дэпутатаў Сойму і Сэнату, выразна *пераходзе да выбранца гэных выбранцаў* — прэзыдэнта рэспублікі, а Сойм і Сэнат—адыходзяць на другі плян. У гэтым і зьмяшчаецца перадусім тое *новае*, што прынесла Польшчы аружнае выступленьне маршалка Пілсудскага.

Але-ж Сойм і Сэнат не ліквідуюцца: трэба спадзявацца, што—*зрабіўшы першы крок* у вымаганым марш. Пілсудскім кірунку (выбар за прэзыдэнта ягонага кандыдата!), палітычна збанкрутаваўшы дзякуючы свайму асабоваму складу,— Сойм і Сэнат *зробяць і чародныя*: згодзяцца на свой роспуск, правёўшы праектаваныя новым урадам рэформы ў польскай дзяржаўнай арганізацыі, а мо' і новы выбарны закон. — Вось, ад усіх гэных навін будзе залежаць і далейшы ход выпадкаў у Польшчы, і ўжо цяпер можна прадбачыць *кірунак* гэтых выпадкаў.

Перадусім спадзяванае абмяжаваньне правоў законадаўчых палат на карысьць прэзыдэнта рэспублікі можа завастрыць клясавую барацьбу ўнутры рознаплямённага грамадзянства Польшчы. Справа ў тым, што ў сучасным Сойме і Сэнаце маюць рашучую перавагу буржуазныя партыі, якія і выбралі на становішча галавы дзяржавы чалавека, каторы будзе старацца захаваць абяшчаную маршалкам Пілсудскім „сацыяльную раўнавагу“, карысную для пануючых клясаў. Дык зусім натуральным вынікам гэтага будзе барацьба сацыяльна пакрыўджаных клясаў за захаваньне сувэрэнных правоў законадаўчых установ і за перавагу іх над уладай прэзыдэнта, а адначасна — імкненьне гэтых клясаў да перамогі над буржуазіяй у часе *новых выбараў*.

Такім парадкам наперад можна прадбачыць стварэньне на новых выбарах *адзінага працоўнага фронту*, бо-ж ад існуючае сяньня „сацыяльнае раўнавагі“ ў роўнай меры церпяць сяляне і работнікі ўсіх нацыянальнасьцяў Польшчы — як беларусы і ўкраінцы, немцы і жыды, так і палякі.

Ведама, вынік выбарнае барацьбы будзе залежаць перадусім ад таго, паводле якога выбарнага закону яны будуць адбывацца. Дык ясна, што задачай дэпутатаў ад працоўнага народу, а перадусім ад працоўных масаў такзваных „нацыянальных меншасьцяў“, будзе абарона сваіх правоў *яшчэ ў гэтым* Сойме і Сэнаце, калі ў іх будзе разглядацца праект нейкае зьмены. Ужо сучасны выбарны закон вельмі пакрыўдзіў перадусім „нацыянальныя меншасьці“;—нашы паслы павінны пілнаваць, каб новы не аказаўся йшчэ горшым за яго.

---

Мы прымушаны на гэтым мейсцы заклеймiць адно зьявішча сярод беларускага грамадзянства дужа сумнае і шкоднае для беларускае справы наагул: беларускія буржуазныя групы, кіраваныя ксяндзамі, у апошнім часе павялі атаку проці існуючых у нас і дужа йшчэ нячысьленых культурных установаў. Адзінай прычынай такога паходу зьяўляецца тое, што беларускія буржуазныя групы **ніякае культурнае працы самі дагэтуль не вялі і не здалелі падчыніць сваім палітычным уплывам** нашы культурна-асьветныя ўстановы, таварыствы, школы.

Асабліва востра трэ заклеймiць выступленьне „былага прэфэкта“ (вучыцеля Закону Божага) Беларускае Гімназіі ў Вільні—ксяндза, які на страніцах польскага журнала „Przegląd Wileński“ робіць зусім беспадстаўныя закіды **вучыцельскаму пэрсаналу** Гімназіі, быццам да вучняў-каталікоў адносіны ў Гімназіі былі горшыя, чым да праваслаўных.

Што гэта — мана, ясна хаця-бы з таго, што сярод вучыцялёў Гімназіі ўвесь час былі вучыцялі каталіцкага і іншых вызнаньняў, якія-ж хіба не маглі вясьці падобнае палітыкі і пэўне-ж самі запратэставалі-бы проці яе, калі-б нешта падобнае бачылі! Да таго-ж і абітурыенты-каталікі, ужо выйшаўшыя з Гімназіі і ад яе незалежныя, з абурэньнем запратэставалі проці закіду свайго былага законавучыцеля, паслаўшы пісьмо ў рэдакцыю журнала „Przegl. Wil.“.

Асаблівае абурэньне закіды „былага прэфэкта“ выклікаюць затым, што яны зласьліва пушчаны акурат у мамэнт, калі ў віленскім куратарыуме вырашаецца справа далейшае канцэсіі на Віленскую Беларускую Гімназію,—а ведама-ж, што адносіны куратарыуму да Гімназіі — вельмі варожыя, і напасьць на Гімназію з боку афіцыяльнага прадстаўніка „маральнасьці“ паслужыць школьнай уладзе за „аргумант“ дзеля перашкод у далейшай працы найстарэйшай і найпаважнейшай у Заходняй Беларусі беларускай сярэдняй школы.

Як ведама, лічба „былых прэфэктаў“ Віл. Белар. Гімназіі—невялікая: кс. Талочка, кс. Бобіч, кс. Рэшаць, ды кс. Станкевіч. Каторы-ж з іх з-за кута робіць удар Беларускай Гімназіі? Хто з іх аказаўся настолькі пазбаўленым адвагі, што, робячы ліхое дзела, схаваў сваё імя пад псэўданім і гэтым дае шырокае поле дзеля дагадак, крыўдных для яго калегаў?

Вось, як выглядае на дзеле „этыка“ і „праўда“ нашых „велебных айцоў“....

---

## Ці будзе лягчэй?

Цяжка, горка і дрэнна было сялянству ды работнікам у Польшчы да перавароту. Здавалася—што-б ні здарылася, — ня можа быць горш ды цяжэй...

Дык вось, калі так гучна рэклямаваўся дый раздзьмухіваўся польскай лявіцай „вялізарнай важнасьці рашучы пераварот“ у Польшчы,—шмат хто з сялян ды работнікаў ня мог не падумаць: ну, калі ня можа ўжо быць горш, дык вось людзі кажуць, што будзе лепш... Людзі спадзяваліся, што „пераварот“ запраўды-ж нешта „пераверне“ ў Польшчы,—каб, як пішацца ў Эвангэліі,—„першыя сталіся апошнімі, а апошнія—першымі“..

Але аказалася, што да гэткага запраўднага эвангельскага перавароту ў Польшчы, можа, яшчэ ня так блізка. Прынамся сам спраўца перавароту заявіў, што ён зрабіў толькі — „маральную рэвалюцыю“, што гэтая „рэвалюцыя—без усялякіх рэвалюцыйных пасьледзтваў“ ды вынікаў... Гэта-ж якраз і значыць, што яна зусім ня робіць аніякіх зьменаў ды „пераваротаў“ ані ў палітычным, ані ў сацыяльным складзе і ладзе Польскай дзяржавы... Дзе хто сядзеў перад „пераваротам“, там сабе і будзе сядзець і пасьля... Было „зашмат зладзействаў ды несправядлівасьці ў Польскай дзяржаве“, — павінна быць менш. Але гэта ўсё зробіцца шляхом—„маральнага ўплыву“ на зладзеяў ды крыўдзіцеляў народу, падмацаванага найвышэйшым у Польшчы аўтарытэтам дый наймацнейшай у Польшчы сілай — войскам, кроў якога абвешчана марш. Пілсудскім—„найдаражэйшай у Польшчы“...

Рэальна „пераварот“ гэткім чынам адбыўся перадусім—на карысьць войска, якое запраўды неяк зьнізу паднялося разам угару...

---

Першым чынам атрымалі рэальнае паляпшэньне свайго жыцьця бліжэйшыя да марш. Пілсудскага таварышы ды спраўцы „перавароту“ — розныя генаралы і афіцэры, якія атрымалі розныя „верхнія“ становішчы ў арміі — на мейсца тых, якія пайшлі так ці інакш уніз...

Пасьля, як зараз-жа ў першыя дні паведамілі газэты, значнае паляпшэньне жыцьця—у выніку „перавароту“—атрымалі ўсе афіцэры польскай арміі, якім загадам ваеннага міністра марш. Пілсудскага зроблена ці абяцана дабаўка пэнсіі—на 25 проц., ці на цэлую чверць...

Грошы на гэтую прыбаўку панам афіцэрам трэба скульсьці ўзяць... А пасьля афіцэраў пэўна-ж прыдзе чарод і на жаўнераў, якіх кроў Марш. Пілсудскі таксама прызнаў — „найдаражэйшай у Польшчы“. Пэўна-ж кожны новы польскі ўрад, які будзе створаны пад фактычным рашучым уплывам марш. Пілсудскага, будзе ўрадам, які перадусім, паводле заяваў апошняга, будзе пільнаваць „маральныя інтарэсы ды годнасьць арміі“... А ведама-ж, што запраўдная маральная годнасьць можа ўзрасьці ў чалавека, калі ён чуецца добра перадусім матэрыяльна; дык ясна, што на армію наагул ня будуць ужо так шкадаваць грошай у „маральна адраджонай“ Польшчы, як гэта змушаны былі рабіць польскія ўрады—перад „пераваротам“... З гэтага таксама—зусім ясна, што „пераварот“, стаўляючы на першае мейсца „маральна-матарыяльныя інтарэсы“ арміі, тым самым на першае-ж мейсца ў Польшчы і ў яе палітыцы ставіць—**мілітарныя інтарэсы краю**... Але праўду кажуць цяпер на сьвеце, што з усіх рэчаў на сьвеце найкаштаўнейшай зьяўляюцца як-раз гэтыя „мілітарныя інтарэсы краю“... Найкаштаўнейшай забаўкай наагул, як для вялікіх правадыроў, таксама толькі можа крыху ў іншым сэньсе і для народу зьяўляюцца гэтыя „мілітарныя інтарэсы“...

---

У дні вялікіх урачыстасьцяў гэтага „перавароту“, сярод розных трыумфаў, парадаў, цэрэмоніяў, прамоваў і заяваў высунутых на першыя мейсцы асоб, усе як-быццам забыліся аб тым, што за ўсе гэтыя ўрачыстасьці ды перамогі — **нехта неяк павінен плаціць**. Забыліся ўсе аб тым, з чым пачалі „пераварот“, з чым увайшлі ў „новую эру маральнага адраджэньня“, — забыліся аб дзіравым, як „трышкін каптан“, польскім дзяржаўным бюджэце.

Усе забыліся аб тым, што гэты бюджэт мае больш за 200 мільёнаў злотых недахвату, пакрыць які ніводзін з усіх фінансавых галоў, якія толькі існуюць у Польшчы, дагэтуль не здалеў.

І вось, пасьля „перавароту“ ўсё неяк і ў фінансавай галіне „асталося пастарому“, дый мо навет пагоршала, бо — замест рашучай ашчаднасьці перадусім у найдаражэйшай для дзяржаўных фінансаў галіне — утрыманьня войска — галоўным пунктам новай праграмы ставіцца павялічэньне выдаткаў на войска.

---

А трэба-ж памятаць, што польскі бюджэт дагэтуль **не разгледжаны ды ня прыняты парлямантам**, ня гледзячы на тое, што падыходзіць ужо канец паўгодзьдзя, на якое былі асыгнаваны на рукі ўраду грошы. Прыпомнім галоўныя лічбы польскага бюджэту—у сьмеце мін. Зьдзеховскага, **паводле якой край жыве цяпер.**

Даходы дзяржаўнага скарбу за 4 месяцы 1926 г. перавысілі крыху 500 мільёнаў, што за год дасьць (а можа і ня дасьць?) больш менш каля 1520-1528 міл. злотых — амаль ня точна так, як прадбачыў Зьдзеховскі. Ясна, што—пры агульным зьбядненьні ды без усялякага „перавароту“ сацыяльнай палітыкі „новай эры“, рахаваць навет на гэтую лічбу цяжка. Што-ж прадбачыць мін. Чэховіч? Ён папросту, не падаючы ніякіх вынсьненьняў, павялічыў даходы ў бюджэце — да 1.600 мільёнаў. Скуль ён мае ўзяць гэтыя 70-80 мільёнаў, гэта — яго тайна. Але можа ён на гэтую-ж суму маніцца зьменшыць недахват у бюджэце? Зусім не! На тую-ж суму 70 мільёнаў ён павялічыў і выдаткі. Як быццам галоўнай задачай міністра скарбу было не захаваць раўнавагу польскага бюджэту, але захаваць у ім недахват—200 мільёнаў! Гэткім чынам тая сума выдаткаў—1.730 міл., якую мін. Зьдзеховскі слушна лічыў зусім непасільнай для згалелай Польшчы, сума, якую ён меў падаць Сойму да значнай абрэзкі — шляхам ашчаднасьці ўва ўсіх галінах дзяржаўнай гаспадаркі, а перадусім—у галіне выдаткаў на войска,— гэтая сума дзяржаўных выдаткаў Польшчы ў „пляне“ новага міністра скарбу **ўзрасла да 1.800 мільёнаў злотых**, ці падыходзіць ізноў к таму „2-х мільярднаму канону“ Ул. Грабскага, які заламаў ды зваліў год таму — сьпярша польскі злоты, а пасьля і яго бацьку. Гэткім чынам „казачка пра белага бычка“, ці — пра бюджэтную раўнавагу ў Польшчы пачынаецца ізноў ад самага пачатку.

---

Як ведама, даходны бюджэт Польшчы амаль не цалком пабудаваны **на падатках**. Бо ад сваей няўдалай дзяржаўнай гаспадаркі ды ад замежнага гандлю сваей буржуазіі польскі скарб мае вельмі няшмат карсьці. Дык вось, калі гэтыя бюджэтныя „прадбачаньні“ міністра Чэховіча новы ўрад пачне трактаваць паважна, тады прыдзецца ўсю „прэлімінаваную „міністрам суму даходаў спаганяць з насяленьня краю, востра ўзяўшы падатніка за кішэнь.

I вось тут адразу павінна будзе раскрыцца да канца запраўдная сацыяльная прырода „маральнай рэвалюцыі“ у Польшчы. З каго будуць спаганяць гэтыя падаткі: з маючых, як трэбавалі навет польскія „сацыялісты“, ці—з працоўных ды голых людзей, як „прэлімінаваў“ урад Зьдзеховскага?!

З таго, што мы ведаем ужо, відаць: 1) што за падставу далейшай фінансавай палітыкі „новай эры“ ўзяты бюджэт і фінансавы плян, апрацаваны фінансавым прыкашчыкам польскай буржуазіі і польскага абшарніцтва—Зьдзеховскім; 2) што навет кампрамісны плян, які ўсё-ж неяк цягнуў буржуазію да ахвяраў, апрацаваны пэпэсамі, зусім ня прымаецца пад увагу ўрадам Бартля.

У прэсе ўжо зьявіліся весткі аб розных цыркулярах („акульніках“), якімі загадываецца рашучы спагон істнуючых падаткаў — бяз усякай палёгкі...

Гэткім чынам наіўныя надзеі на палёгку жыцьця ў Польшчы ў сувязі з „пераваротам“, хутка павінны атрымаць дужа прыкры адказ ад жорсткай праўды жыцьця...

---

Галоўным цяжарам для дзяржаўнай гаспадаркі, як і для народнай эканамічнай адбудовы ў Польшчы, як ведама ўсім, зьяўляецца — мілітарызм польскага бюджэту. I гэты цяжар ня будзе зьменшаны, але будзе павялічаны—ў выніку „перавароту“...

I добра яшчэ, калі гэты „мілітарны цяжар“ абмяжуецца толькі падаткамі грашымі, але не патрэбуе ад працоўнага насяленьня яшчэ і — падатку крыві...

А хто можа запэўніць нас, што ў краі, дзе адсоўваецца ў цёмны кут народнае прадстаўніцтва, якое або ня склікаецца або маўчыць, баючыся за свае „пэнсіі“,—„улада моцнай рукі“, скінуўшы кантроль ды ўзду з боку паўнамоцных прадстаўнікоў народу, не захоча распачаць якіх — колечы неспадзяваных „posunięć“?!...

Ды вось—на галоўнае цікавячае нашых чытачоў пытаньне: ці будзе лягчэй?—мы ня маем для адказу ніводнага пацяшаючага слова...

# Англійскія кансэрватары аб СССР.

Англійскія газэты публікуюць справаздачу групы выдатнейшых англійскіх паслоў кансэрватыўнай (ўрадавай цяпер) партыі — з іх падарожы ў СССР.

Група гэтых паслоў ехала, каб пазнаць намейсцы палітычныя і эканамічныя абставіны ў СССР, каб гэтым матэр'ялам кіравалася палітыка ўраду адносна да СССР. I вось—вынікі дасьледу падарожнікаў.

Цяпер ужо ня можна сумлявацца, што радавы ўрад застанецца трывалай установай у Расеі. Дзеля таго трэба рашуча зьмяніць палітыку байкоту ці нэгацыі СССР. Новая разумная расейская палітыка Англіі павінна кіравацца гэткімі падставамі: 1) трэба спыніць процірадавую прапаганду; 2) трэба, наадварот, падтрымліваць гандлёвыя зносіны між абадвума краямі, бо толькі гэткім шляхам зьменшыцца безрабоцьце ў Англіі; 3) трэба дамагацца, каб радавы ўрад вярнуў прыватныя капіталы і канцэсіі англійцам.

Справаздача падчырківае, што, пакуль англійцы бавіліся ў байкот ды блёкаду СССР, Нямеччына і Амэрыка занялі ў СССР вельмі добрыя гаспадарчыя пазыцыі... Урэшце паслы—прадстаўнікі англійскага буйнага капіталу — кажуць, што ўраду СССР павінны быць дадзены значнейшыя і даўгасрочныя крэдыты на закуп розных тканых тавараў і машынаў у Англіі.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Праграма прэз. Мосьціцкага.

Газэты паведамілі, што перад сваім выбарам у прэзыдэнты праф. Мосьціцкі падпісаў адозву, якую трэба лічыць „праграмай прэзыдэнта Рэспублікі“.

Галоўныя пункты праграмы—гэткія:

1. Безадкладнае пашырэньне законадаўным шляхам правоў выканаўчай улады прэзыдэнта, а перадусім—надзяленьне прэзыдэнта правам распускаць законадаўчыя палаты;
2. Безадкладны роспуск Сойму і Сэнату—зараз-жа пасьля гэтых зьменаў Канстытуцыі;
3. Назначэньне прэзыдэнтам паза-парляманцкага ўраду „моцнай рукі“—з спэцыялістаў—дзеля аздараўленьня фінансава-гаспадарчага і ўсялякага, а асабліва—маральнага жыцьця краю;
4. Асаблівую ўвагу ў гэтай „маральнай санацыі“ зьвярнуць на... паноў паслоў і сэнатараў,—каб яны не маглі карыстацца сваім асаблівым становішчам у сваіх прыватных „кішанёвых“ інтарэсах, ці прасьцей—акрадаць край...

З гэтага відаць, што праграма новага прэзыдэнта, гэта-ж — якраз тое, аб чым казаў марш. Пілсудскі.

### Выступленьні радыкальных паслоў на Нацыянальным Зборы.

У часе ўрачыстасьці прыняцьця прысягі ад прэзыдэнта мела мейсца гэткае здарэньне. — Як толькі прэзыдэнт скончыў прысягу, адзін з паслоў-камуністаў крыкнуў: „Трэбуем амністыі ўсім палітычным вязьням“. „Трэбуем зямлі для сялян бяз выкупу“. Гэтае дамаганьне падтрымала і група „Незалежнага Сялянства“, усе паслы беларусы („Бел. Сял.-Раб. Грамада“) і ўкраінцы, дый яшчэ шмат хто з сялянскіх польскіх групаў, што разам злажылася ў моцную маніфэстацыю, зрабіўшую вялікае ўражаньне на сабраўшыхся ў поўным складе паслоў замежных дзяржаў і прадстаўнікаў прэсы. Беларускія „грамадаўцы“ і ўкраінскія дэпутаты далучылі свае дамаганьні—самавызначэньня Зах. Беларусі і Зах. Украіны. Паслы вачавідцы кажуць, што марш. Пілсудскі павярнуў галаву і, грозна спусьціўшы бровы, паглядзеў на паслоў...

Пасьля ізноў, калі старшыня Збору зачыніў паседжаньне, камуніст Сохацкі крыкнуў: „Трэбуем работніцка-сялянскага ўраду“ і—„Хай жыве сацыяльная рэвалюцыя. Ізноў лёзунгі гэтыя падгрымалі шмат хто з паслоў радыкальнай лявіцы. Рэшта паслоў пачалі крычаць: „Хай жыве прэзыдэнт“, „Хай жыве Польшча“...

Цікава, што на ўрачыстасьці гэтай ня былі прысутныя пэпэсы... Справа ў тым, што гэтыя „сацыялісты“, якія праз увесь час падтрымлівалі ў Польшчы цэзарызм і былі такімі адданымі марш. Пілсудскаму, ад часу перавароту, які меў даць ім—паводле іх перакананьня — кіруючую ролю ў Польшчы, а замест таго зусім адсунуў іх ад кіруючага цэнтру,—зазлаваліся і гэтак выявілі сваё нездаваленьне ходам выпадкаў.

Вачавідцы расказываюць, што ўвесь Замак быў у часе ўрачыстасьці поўны жаўнераў ды афіцэраў.

### Адстаўка габінэту Бартля і — новы ўрад Бартля.

Пасьля прыняцьця ўлады новым прэзыдэнтам увесь габінэт Бартля падаўся ў адстаўку, як гэта было ўложана згары. Прэзыдэнт прыняў адстаўку, але даручыў пакуль-што часова спаўняць свае абавязкі ўсім міністрам.

На чале новага ўраду мае стануць той-жа пасол праф. Бартэль, які ўжо атрымаў ад прэзыдэнта адпаведнае даручэньне.

П. Бартэль папрасіў у прэзыдэнта 3 дні на стварэньне ўраду і пачаў ужо — перагаворы з... прадстаўнікамі соймавых клюбаў, пачаўшы, як пішуць газэты,—ад пасла Гломбіньскага (Эндэка), а толькі пасьля—з пэпэсамі п. п. Маркам і Недзялковскім... Праўду казаў марш. Пілсудскі: „баюся, што пасьля выбару новага прэзыдэнта ўсё пойдзе па-стараму“... Толькі вось няведама: ці ён гэтага больш „баяўся“, ці больш—хацеў?—Бо-ж—„рабіў ўсё сам“, як сцьвярдзіў сам у тэй-жа прамове перад пасламі і сэнатарамі...

### Старшыня Сойму „захварэў“...

Газэты паведамляюць, што старшыня Сойму п. Ратай хоча адмовіцца ад гэтага высокага, але неяк „апусьцеўшага“, як соймавая саля, становішча. На запытаньні: чаму, ён адказаў, што чуе сябе вельмі замарыўшымся ды хворым... Дзіўна: бо ж толькі перад тым, калі яму прапанавалі кандыдатуру ў прэзыдэнты, ён, як тады заявіў сам,—„чуўся залішне здаровым ды маладам, каб сесьці на спакойнае ды безадказнае крэсла прэзыдэнта“.

Баюць, быццам „замарыла“ марш. Ратая пераносеньне мейсца прысягі ў Замак з гмаху Сойму, дзе ён ўжо ўлажыў шмат працы ды грошаў, каб прыаздобіць ўсе да ўрачыстасьці, у якой чуўся—згодна з Канстытуцыяй—гаспадаром.

### Генаралы ў „безадказнай апазыцыі“.

Ведамы правы генарал Галлер публікуе ў „Дзен. Пазнанскім“ рэзкі пратэст проці арыштаў і гвалтаў над генараламі Загорскім, Развадоўскім, Мальчэўскім і інш.

Былы міністар ген. Мальчэўскі, як сцьвярджае Галлер, быў зьбіты і зьбяшчэшчаны агідным спосабам.

„Паднашу голас становучага пратэсту і апэлюю да сумленьня паслоў, сэнатараў а таксама ўраду і Маршалка Сойму,—каб яны палажылі канец гэтым бяспрыкладным жорсткім гвалтам ды адбудавалі даўнія правы і канстытуцыйныя вольнасьці грамадзян Польшчы“.

Гвалты — заўседы агідны, але часам няшкодна для „маральнай санацыі“ тых, што праз усю жыцьцё рабілі гвалты над іншымі, пакаштаваць самым, што каштуе фунт ліха... Той самы генарл маўчаў, калі нешта падобнае здаралася на „крэсах“ з беларускімі сялянамі, але ўжо — „ня можа маўчаць“, як прыйшоў чарод на яго калегу — генарала...

Што не маўчыць, гэта добра. Але што маўчаў раней, гэта—агідна...

### Сялянскія бунты.

Як даносіцць „Rzeczpospolita“ (№ 148 з дня 2/VI 1926 г.), у Келецкай і Люблінскай губэрнях адбыліся паважныя вясковыя бунты.

Мясцовае насяленьне ў Келіцкім ваяводзтве шмат дзе пачало рубіць лясы і прыступіла да падзелу абшарніцкіх маёнткаў. Не абыйшлося без грабяжоў. 6 двароў абрабавана гэтак, што павырываны навет рамы з вакон. Высланая адміністрацыйнай уладай паліцыя не магла даць сабе рады з таўпой. Ваявода вызваў дзьве роты 4 пехотнага палка, і паўстаньне было здушана.

У Люблінскім ваяв. сялянскія бунты насілі якраз такі самы характар, як і ў Келецкім. „Rzeczpospolita“ аб'ясьняець сабе гэтыя факты агітацыяй „Niezależnej Partji Chłopskiej“ і ўгрупаваньня Оконя

„Słowo“ (№ 130 з дня 6/VI) у карэспандэнцыі з Жалудка наказуець аб сялянскім руху ў Лідзкім пав. У лясы князя Чэтвертынскага з усіх вёсак людзі выгналі скаціну. Нейкія невядомыя людзі напалі на абшарніка Зана і паважна яго пакалечылі. Лясьнічага князя Чэтвертынскага ўзноў-жа-ж так патаўклі, што ёсьць саўсім малая надзея на выздараўленьне.

### Жалезнадарожная катастрофа пад Ожаровам.

Спэцыяльная камісія, высланая на месца выпадку, разгледзіўшы варункі катастрофы, прыйшла да пераканаyньня, што лінія была папсавана некімсь сумысьля. Поезд зыйшоў з рэльсаў з прычыны таго, што шыны былі раскручаны. Вінавайцаў катастрофы шукаюць.

### Арышты камуністаў у Варшаве.

3/IV палітычная паліцыя арыштавала ў Варшаве 43 камуністаў. Знойдзена ў іх шмат нелегальнай літэратуры, друкаванай як у польскай, так і іншых мовах. У Варшаве, як выкрылі цяпер, знаходзіліся 3 іхныя друкарні.

## Заграніцай.

### Радэк аб „пераароце“ Пілсудскага.

„Gaz. Poran.“ паведамляюць з Масквы аб вельмі цікавых для беларусаў увагах Радэка аб „пераароце марш. Пілсудскага.

Радэк кажа, што Бэльвэдэр узялі — беларускія жаўнеры, якіх афіцэры-пілсудчыкі павялі ў атаку, крычучы—„Далоў паноў“. Далей, кажучы аб Пілсудскім, называе яго „апошнім героем польскага рамантызму, які зусім ня ведае, што мае рабіць у нашыя часы на зямлі“. Дыктатуру Пілсудскага называе „жартам гісторыі“.

### Чычэрын едзе ў Эўропу.

З Бэрліну пішуць, што Чычэрын мае ў жніўні паехаць у Бэрлін, Парыж і Рым.

### Радава-літоўскі дагавор.

Старшыня літоўскай дэлегацыі дзеля перагавораў з СССР у справе заключэньня дагавору між абыдвума краямі заявіў, што галоўная праца скончана. Асталося толькі точна зрэдагаваць дагавор, падпісаньне якога—справа бліжэйшага часу.

### Лёкарнскія Трактаты ў францускім сэнаце—і Польшча.

Францускі сэнат пачаў дыскусію аб Лёкарнскіх Трактатах. Былы прэзыдэнт Мільеран сказаў вельмі цікавую прамову, у якой раскрыў, што Лёкарнскія Трактаты (дабравольную міравую з Нямеччынай)—трэба было заключыць, бо Амэрыка адмовілася споўніць сваё абяцаньне — гарантаваць граніцы і бясьпечнасьць Францыі. Але гэтыя Трактаты, асабліва пасьля спыненьня ваеннага кантролю над Нямеччынай, зусім не забясьпечываюць Францыі. Дык трэба, казаў Мільеран, моцна трымацца саюзу з Чэха-Славакіяй і заключыць новы саюз—з Югаславіяй.

А вось аб Польшчы дык нешта—ані слова.

### Адстаўка швэдзкага ўраду.

У швэдзкім парляманьце—у часе дыскусіі ў справе помачы безработным—большасьць буржуазных пар-

# Паведамленьне.

## Цэнтральны Камітэт Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады

гэтым паведамляе, што з 1-га чэрвеня г. г. заснаваны ў Вільні, Віленская № 12—7

## ЦЭНТРАЛЬНЫ СЭКРЭТАРЫЯТ ГРАМАДЫ,

куды і належыць зьвяртацца за літэратурай і ў справах арганізацыйных.

Праца ў Сэкрэтарыяце адбываецца ад 7 гадзіны раніцы да 10 вечара што-дня, не выключаючы сьвят.

Ц. К. Б. С.-Р. Грамады

тыяў высказалася проці палітыкі габінэту, якім кіравала швэдзкая сацыял-дэмакратыя. Сацыялісты прынялі гэта за выражэньне недаверыя да ўраду, і габінэт выйшаў у адстаўку.

Кароль прыняў адстаўку і даручыў сфармаваць новы ўрад людоўцу Экману.

### Справа Мосулю і — новае паўстаньне Курдаў.

У апошнія дні быццам ужо скончыліся перагаворы між англійскім і ангорскім (турэцкім) урадамі ў справе захопленага англійцамі багатага нафтай турэцкага округу Мосулю. Аставалася тольті падпісаць дагавор. Турцыя ўсё неяк адцягівала, бо-ж гэтая зямля—яе.

Тады раптам, якраз у патрэбны для Англіі мамэнт! — выбухла новае паўстаньне курдаў у суседзтве спорнага округу.

Трэба ведаць, што сьпярша Турцыя рашуча адмовілася аддаць сваю зямлю Англіі дый рашыла лепш ваяваць, каб выкінуць аружжам засеўшых там англійцаў. Але Англія злучылася ваеннай умовай амаль ня з усімі суседзямі Турцыі (апрача, ведама-ж, — ССРР), якім „дазволіла“ ў разе вайны — захапляць суседнія кавалкі Турцыі. Тады Турцыя згадзілася ўжо на паразуменьне.

## ХРОНІКА.

**АД АДМІНІСТРАЦЫІ. Дзякуючы павялічыўшамуся ліку падпішчыкаў маем магчымасьць зьменшыць цану нашай газэты. Ад 1./VI. г. г. месячная падпіска—1 зл. 50 гр.**

**„Пачэсныя“ госьці ў Вільні.** Аказваецца, што ў Вільні „гасьцяць“... у Антокальскім вастрозе тыя генаралы, якіх новы ўрад аддаў пад суд за розныя надужыцьці і зладзействы (Розвадоўскі, Загурскі, Язьвіньскі).

Надовячы гэтая кампанія павялічылася: сюды перавезьлі з Варшавы і б. міністра ваенных спраў у ўрадзе Вітоса, генарала Мальчэўскага...

„Fortuna kołem się toczy“, як кажуць палякі. Яшчэ месяц — два назад польскія нацыяналісты сустракалі-бы гэтых „пачэсных“ гасьцей... кветкамі і ўрачыстымі банкетамі!

**Справа ген. Янушайтіса.** Як даносіць „Robotnik“, вядомы фашыст генарал і Наваградзкі ваявода Янушайтіс у хуткім часе пакіне сваё становішча.

Шчасьлівай дарогі!

Шкода, што толькі яго аднаго з „нашых“ зубраў змусілі падацца ў адстаўку...

**Справа падпракурора Гурчына.** 2 ліпня ў віленскім акружным судзе будзе разглядацца справа б. падпракурора гэтага-ж суда Гурчына, які прагуляў значную суму чужых грошы, зложаных у дэпозыт суда.

Віленскія газэты паведамілі ўжо, што ў складзе судзьдзяў і абвіненьня ня будзе нікога з былых калегаў Гурчына.

На судклічуць 40 сьведкаў. Абарона маніцца даказваць, што Гурчын быў.... „ненармальны“, калі краў давераныя яму грошы!

Калі-б суд прызнаў доказы абароны, дык гэта быў-бы прысуд перадусім для судовае ўлады: бо-ж як магло стацца, што ненармальнаму чалавеку быў аддадзен лёс сотняў людзей, якіх ён у свой час абвінавачаваў і трымаў у вастрозе.... Дык задача абаронцаў Гурчына—дужа цяжкая і няўдзячная!

**Арышты ў Глыбокім.** У Глыбокім арыштаваны ўзноў 18 асоб, паміж імі Ян Станкевіч і М. Марковіч. Усіх аддалі да дыспозыцыі сьледчага судзьдзі.

**Падаткавыя экзэкуцыі.** Скарбовыя ўрады ў Вільні прыступілі да экзэкуцыі ўсіх незаплачаных падаткаў. З прычыны агульнага фінансовага і эканамічнага крызісу ўрад даець льготы ў пэўных выпадках, варункам якога ёсьць заплачаньне той часьці падатку, якую даўжнік можа ўнясьці, ня руйнуючы гаспадаркі.

Ясна, што гэтыя льготы адносяцца толькі да багачоў. З сялян даўно ўжо ўзялі ўсё, што толькі было магчыма ўзяць...

Экзэкуцыі незаплачаных падаткаў, паміма абяцанак льгот, набіраюць што раз, то больш вострыя характар. Напр. у аднаго майстра гадзіньнікаў (Конная 65), нямеўшага магчымасьці заплаціць падатку 50 зл., зьліцытавалі жалезную касу вартасьці 100 даляраў. Некалькім гандляркам з Галяў, якія прасілі прыняць часьць—сэквэстратары пачалі забіраць масла, сыр і т. д. Гандляркі бараніліся, дык іх арыштавалі.

Тое самае здарылася на дравяным рынку.

Льготы, як бачым, істнуюць толькі для багатых; для беднага, ці ён жыве ў вёсцы, ці ў горадзе,—няма льготы.

**Веча культурнай сэкцыі жыдоўсніх праф. саюзаў.** У нядзелю адбылася веча культурнай сэкцыі жыдоўскіх праф. саюзаў. Паміж іншых вынесена рэзалюцыя з дамаганьнем звальненьня палітычных вязьняў.

У звязку з гэтым манархістычнае „Słowo“ памясьціла правакацыйную заметку, у якой „зварачае ўвагу ўлады“ на „камуністычныя“ ўплывы ў жыдоўскіх праф. саюзах.

„Słowo“, відаць, хацела-б, каб усе праф. саюзы былі апанаваны сацыял-здраднікамі і рабілі службу буржуазіі...

**Забастоўка шаўцоў.** З прычыны таго, што ўласьнік фабрыкі вобуві Б. Навагрудзкі адмовіўся споўніць дамаганьні Управы Клясавага Саюзу шаўцоў і збольшыць работніку заработную плату на 30 проц., шаўцы аб‘явілі забастоўку.

**Пагроза забастоўкі.** Управа клясавых саюзаў дрэўных работнікаў пастанавіла энэргічна дамагацца ад уласьнікаў тартакоў збольшаньня заработнай платы.

Калі-б іхныя дамаганьні ня былі прыняты, — управа думае аб‘явіць забастоўку.

Пачатак яе мае быць вызначаны каля 20 г. м.

**Спор у шкляных гутах.** Уласьнік гуты па вул. Кальварыйскай 3 вядзець перагаворы з бастуючымі работнікамі. Ён не згаджаецца на падвышку заработнай платы і паведамляе, што калі-б работнікі згадзіліся на выстаўленыя ім варункі,—гута ў працягу 6 дзён будзе працаваць; калі не, — ён пачакае на адказ 2—3 тыдні, а пасьля прывязе сабе работнікаў з іншых часьцей дзяржавы.

**Новыя жалезнадарожныя тарыфы.** Ад 10/VI—26 г. ўводзяцца падвышкі цэн жалезнадарожных білетаў. На далейшую дарогу падвышка будзе меншая, як на кароткую.

Так на дарогу да 100 кілямэтраў падвышаны тарыф на 20 процантаў, да 300 кіл. на 15 проц., да 500 кіл.—на 10 проц., да 800 кіл.—на 5 проц., а на далейшую дарогу тарыф навет зьніжаны.

**Падзяка.** Урад Бел. Навук. Т-ва гэтым дзякуе за прысланыя ў музэй ім. Ів. Луцкевіча рэчы грамадзянам: 1) **Ф. Аляхновічу** — за № 1 „Нашае Долі“, 5 белар. кніжак і фатаграфіі; 2) **Паўлу Бусько** (вучню Навагр. Гімназіі) — за сшытак вершаў Марозіка; 3) **Раману Гулевічу** ў Маладэчанск. пав.—за манэту.

**Афіцыяльны курс грошы на 8 чэрвеня.** Даляр — 9 зл. 98 гр. Залаты рубель — 5 зл. 11 грошы.

8. VI. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 10,30, рубель—5,80, чырвонец—53½ зл.

## Запярэчаньне.

Na zasadzie art. 21 Dekretu w przedmiocie tymczasowych przepisów prasowych, w związku z artykułem „Zazławauszyja fraki“, zamieszczonym w Nr. 5 czasopisma „Biełaruskaja Sprawa“ z dn. 28 kwietnia b. r., proszę o zamieszczenie następującego sprostowania:

1) Członkiem stronnictwa P.P.S. nie jestem, i od czasu wstąpienia do Wojska Polskiego w życiu politycznym udziału nie biorę.

2) Nieprawdą jest, że „posadziłem białoruskiego posła Barana na 4 lata katorgi“, natomiast faktem jest, iż występując jako szef Oddziału II Sztabu D.O.K. Nr. III w Grodnie w charakterze świadka w procesie posła Barana i innych w Sądzie Okręgowym w Białymstoku, zeznawałem zgodnie z prawdą i posiadanymi z urzędu dowodami, że organizacja „powstańcza“ białoruska jednym z kierowników której był b. poseł Baran, a która odznaczyła się głównie rabunkami i napadami na osoby i instytucje prywatne, subsydjowana była przez obce mocarstwa i kierowana przez agentów tych państw dla celów dywersyjno-szpiegowskich, co działo się z wiedzą i przy udziale b. posłów Barana, Jakowiuka i ich towarzyszy.

(—) **Jarecki**
p. o. Naczelnika Wydziału Urzędu
Wojewódzkiego w Nowogródku.

Nowogródek, dn. 28 maja 1926 r.

## „Пад адзін сьцяг“.

Гэй, работнікі й сяляне!
Беларусы-нэндзары!
Пад адзін сьцяг дружна станем,
Напярод—правадыры.
З аднэй думкай і жаданьнем
Пойдзем ўсе за „Грамадой“!
І адзіным фронтам станем,
Як сталёваю сьцяной.
Прэч ўсіх тых, што між намі
Калацею засяюць,
Што змаўляюцца з панамі
І працоўных прадаюць!
Прэч і тых,—што аддзяляюць
Ад работнікаў сялян,
Каб лягчэй па адзіночцы
Нас душыў буржуй ды пан....
Дык цясьней—аднэй сям‘ёю
Рабачай і селянін!
З „Беларускай Грамадою“
Пойдзем ўсе так, як адзін!

**Х.**

## Да моладзі.

Гэй вы, сілы маладыя,
Наша ўцеха, наша слава;
Гэй вы, сокалы ўдалыя,—
Распастрэце сьмела, жвава
Скрыдлы! Бедаў—крыўд зьнішчэньня
Зык магутны пранясецца;
Затрашчаць дубоў карэньні,
Рэха ў небі адгукнецца.
Адгукнецца песьняй волі
У родным лесе, у родным полі;
Адгукнецца грознай карай
Над тэй цёмнай шэрай хмарай;
Адгукнецца праўды сілай
У берагох старонкі мілай.
Віхрам буйным заскавыча,
Усіх да працы над пакліча.
Зьнікнуць цемра, мары злыя—
Гэй, вы, брацьця маладыя!
Ці-ж ня можам быць мы з вамі
Свайго шчасьцьця kavалямі?
— Можам—будзем! Сонца зьяньне
Наша першае пяяньне—
Устрэне ярка на прадвесьні.
І пальлецца гук тэй песьні
Роўнай хваляй ў даль прастора.
— Будзе кожны адчуваці,
Што няма ўжо нэндзы, гора;
Што жыве старонка маці!

**Міхась Васілёк.**

## З жыцьця Горадні.

× **Вобыскі і арышты перад 1 мая 1926 года.** Паліцыя ў Горадні 30-га красавіка раніцаю на падставе распараджэньня свайго мяйсцовага каманданта зрабіла каля 50 вобыскаў.

Роблены былі вобыскі навет сярод тых, хто чытае нашу газэту „Беларуская Справа“, а таксама знаёмы з Беларускімі дзеячамі.

× **Звальненьне Якімовіча.** 17-га мая 1926 года звольнены з вастрогу ў Горадні грамадзкі дзеяч сябра Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады Мікалай Якімовіч. Чуе сябе ён—хворым, прасядзеўшы 18 дзён. Арыштаваны быў перад 1 мая г. з. 30/IV 1926 г.

× **Мітынг ППС.** 16-га мая 1926 г. ППС зрабіла мітынг у гарадзкім тэатры. На вечы прамаўлялі сябры Горадзенскага Камітэту ППС і былі прыняты рэзалюцыі аб аддачы пад суд Хіена-Пястоўскіх правадыроў: Вітаса, Кухарскага, Керніка, Зьдзеховскага, Осецкага і інш., а таксама прынята рэзалюцыя аб дамаганьні поўнай амністыі для ўсіх палітычных вязьняў, апрача шпікоў і правакатараў. Хаця работнікі зарганізаваныя тутка ў ППС — барацьбу за свабоду для палітычных вязьняў лічаць аднэй з галоўных сваіх задач, — іхныя правадыры пэўна і ў гэтым выпадку будуць маўчаць, як набраўшы ў рот вады.

× **Забарона мітынгу.** 22 га мая 1926 г. дэпутат Сойму Белар. Сялянска-Работніцкай Грамады Б. Тарашкевіч зьявіўся да старосты ў Горацні п. Рогалевіча, просячы дазволу на дэпутацкі мітынг на дзень 23-га мая. Староста адмовіў даць дазвол, і мітынгу ня было.

Вось табе і перамена ўраду. Ня лепш, як за часоў хіена-пяста! Мяйсцовае несяленьне страшэнна абурана гэтай адмовай.

× **Фашысты гаспадаруюць.** 20-га мая 1926 г. зволілі з тытуновай фабрыкі ў Горадні 8 чалавек рабочых: Фэдута, Мартунчыка, Сабаля, Ахрамовіча, і інш. Калі работнікі зьвярнуліся да кіраўніка Рудніцкага з пытаньнем, чаму іх звальняюць, Рудніцкі даў кароткі адказ: „Натварылі вы розных сацыялістычных партыяў, выбралі марш. Пілсудскага, дык няхай ён вам і дасьць есьці (усё гэта чуў таксама работнік са стараны Бобэк Ян). Вось якія ў нас парадкі. Усе мы чакалі, што пад уладай Пілсудскага будзе лепш, а тымчасам ня толькі нічога не зьмянілася, але фашыстам навет можна бяскарна мсьціцца за прошлае. Іх ніхто не саджае ў вастрог, хоць нашы змагары гніюць там, ня могуць дачакацца звальненьня.

× **Канфіскацыя.** 12-га мая 1926 г. жыдоўская газэта ў Горадні „Гроднэр Мамэнт“, якая атрымала тэлеграму ад уласнага карэспандэнта з Варшавы аб выпадках — рэвалюцыі ў Варшаве ўраз-жа а 5 гадз. ўвечара выпусьціла экстраны выпуск „Гроднэр Мамэнт“.

Горazзенскі староста вызваў рэдактара газэты і заявіў: на якой падставе надрукаваў гэныя весткі, калі староства само нічога ня ведае? І прыказаў нумар сканфіскаваць.

✕ **Ня палкаю, дык кіём.** У краўца Сокала ў Горадні працаваў работнік Тэнкель, якому належыла заплаціць грошы за работу за 2 тыдні. Гаспадар Сокал адмовіўся заплаціць. Тады рабочы Тэнкель падаў заяву Інспэктару Працы, які стаў у абароне рабочага. Але-ж Сокал на гэны раз усё-ж не заплаціў. Тады рабочы Тэнкель падаў у суд і судзьдзя 17./V. 1926 г. прысудзіў гаспадару Сокалу, каб ён заплаціў Тэнкелю грошы за работу.

На рабочага ёсьць, аднак, заўсёды спосаб. Выйшаўшы з суда на вуліцу, жонка Сокала падняла крык: „паліцыя! арыштуйце камуніста!“ — паказываючы на рабочага Тэнкеля.

На гэты раз, праўда, нічога ня вышла, але факт астаецца фактам, што гаспадар замест заплаціць работніку хацеў засадзіць яго ў турму.

Поглядзімо, што будзе далей.

✕ **Нешчасьлівы выпадак.** Пад работнікам Стэмпэлем Юльянам, які капаў канаву, працуючы на тытуновай фабрыцы, 13/V абвалілася зямля і зламала яму ногі. Ураз-жа яго адправілі ў Касу Хворых, але аказалася, што ўправа тытуновай фабрыкі ў Горадні не парупілася яго, Стэмпэля, запісаць сябрам Касы. З гэтай прычыны лекарская помач ня была яму дадзена. Ніякага адшкадаваньня Стэмпэль не атрымаў і знаходзіцца ў вельмі цяжкім матар'яльным палажэньні.

Вось, які лёс чакае работніка не зарганізаванага ў прафэсіянальным саюзе і ня маючага ніякай магчымасьці абараніць сябе! **Нёман.**

# Карэспандэнцыі.

**Прысылаючы карэспандэнцыю — не забывайцеся падаваць свой адрас і прозьвішча — для ведама рэдакцыі.**

**Рэдакцыя ня можа памясьціць карэспандэнцыі, ня ведаючы, ад каго яна.**

**Мы ўжо мелі выпадкі, што ворагі нашы прысылалі выдуманыя і непадпісаныя карэспандэнцыі з мэтай падвясьці газэту. Рэдакцыя.**

### Лёгкі хлеб—комам.

(З Дзісеншчыны).

Што лёгкі хлеб смачны, гэта ведаем добра, але што ён вельмі ня трывалы—дык і гэта ведама.

Гэтак жыхары Празароцкае гміны—нейкі Багдановіч і з вёскі Кульгаі Міручык і Хрыпач гэтак-жа захацелі спрабаваць „лёгкага“ хлеба, бо бацькоўскі вясковы —чорны, відаць, пачаў дзерці горла. Дык нашыя малайцы дасталі сабе добра вядомыя „пасады“, якіх неяк хапае, ня гледзячы на тое, што цяперака знайсьці чалавеку месца ці працу зусім не магчыма.

Але, відаць, нашыя новасьпечаныя „чыноўнікі“ пачалі атрымліваць хлеб і з аднаго і з другога боку. Даволі таго, што ўсю гэтую „ганаровую“ тройку заарыштавалі свае-ж хлебадаўцы і пасадзілі „на папраўку здароўя“ на... Лукішкі. Як кажуць сваякі, чакае іх вялікая кара.

Вось, браточкі, да чаго даводзяць вельмі часта-густа ўсе гэтыя „лёгкія“ хлябы...

Ня дзіва, калі гэтак здараецца з якім былым чыноўнікам, якога за п'янства адусюль ганялі са службы, пакуль не загналі „на курацыю“; але дзіва з нашых вясковых хлопцаў (а гэтакіх ёсьць ня мала), якія замест трымацца пры зямельцы, або шукаць чэсных заработкаў, кідаюцца за лёгкім хлебам. Хоць цяжка жыць і цяжка знайсьці працу—гэтакі хлеб і нягодны і ня трывалы: паеўшы яго, людзі плачуць і ня могуць бяз сораму потым глядзець у вочы сваім-жа родным і знаёмым! **Нядоля.**

### Як нам жывецца ў Радзівілаўскім княстве.

(Стаўпецкі павет).

Мы ўжо ня раз пісалі аб тым, як цяжка жывецца працуючаму насяленьню нашай ваколіцы, дзе пануе і дзержыць усё ў сваіх руках „ясьнаасьвяцоны“ Радзівілл са сваімі падпанкамі і ляакямі.

Паны ў нас наагул робяцца што-раз то больш наглымі. Яны адкрыта дамагаюцца ў сваей газэце „Słowo“ караля, які-б вярнуў прыгон. Пакуль-жа што яны на правінцыі і без караля пачалі прыгон завадзіць.

У Акінчыцах, Сьвержанскай гміны, маем новага „надлесьнага“ нейкага Клімкевіча. Здавалася-б — вось звычайны слуга і нічога больш; але так ня ёсьць, за ім стаіць сам „яснаасьвяцоны“, а той—„усё можа“...

Быў у нас нядаўна гэтакі выпадак. „Надлесьны“ зазлаваўся на сялян за тое, што не пайшлі падчышчаць лес за права пасьбішча. Хацелі заплаціць яму — ня прыняў і гэтак мсьціцца цяпер. Ён забараніў большасьці жыхароў засьценку Акопчыкі хадзіць туды на заработкі і патрэбаваў ад тых, хто бярэ дастаўку дроў у места, каб ня прыймалі іх на работу.

Ясна, гэтая забарона для сялян вельмі цяжкая, людзі жывуць тут з заработкаў лясных. Панок сьмяецца сабе і кажа, што ўсіх, хто ня будзе пакорны яго волі,—знішчыць і здушыць. І праўда, як даць яму рады? Надлесьны Клімкевіч — прыяцель усіх, хто мае ўладу над сялянамі: таму пасылае бясплатна дровы, другому робе іншую ўслугу. Дык тутака ў нас кругом сеці, і народ добра зразумеў гэтую хітрую мэханіку! Народ бараецца з ёй, як умее і можа.

Аб усіх сваіх крыўдах, аб тым, што Радзівіл, карыстаючыся бядой, завёў у нас прыгон, зьдзірае апошнюю кашулю,—некалькі вёсак паслалі жалабу ў Міністэрства Зямельных Рэформ.

Ясна, толку тутка мала. Трудна чакаць добрага ад абшарніцкага Міністэрства, але жалабу таксама паслалі паслам Бел. Сялянска-Работніцкае Грамады, якія бароняць нашы інтарэсы. Калі яны нічога ня будуць магчы зрабіць нам, то прынамся раскажуць усім, як нам жывецца.

Няхай увесь працуючы народ нашага краю ведае аб гэтым. **Ф. Лесавік.**

### „Przepisy ruchu kołowego“.

(Стоўпцы).

Ад часу, як зрабілася нашае мястэчка прыгранічным, завяліся ў ім розныя навінкі, як напрыклад брычкі на гумовых колах і інш. — Язда на гумовых колах вельмі спадабалася паліцыянтам вагзальнага пастарунку.—Плаціць-жа яны ня любяць! Стаўпецкі фурман Лейба Бруханскі спачатку вазіў паліцыянтаў напавер, але пераканаўшыся, што яны ня думаюць плаціць,—адмовіўся.

Вось—паліцыянты і рашылі яму адамсьціць. — 25 траўня Л. Бруханскі каля 12 гадз. ночы прыехаў з купцом Левінам і, пакінуўшы каня на пляцы, пайшоў з купцом у буфэт.—Гэтым скарысталіся паліцыянты. Дагледзіўшы ў гэтым праступак, яны пацягнулі Бруханскага на пастарунак „на лекцыі“ „przepisów ruchu kołowego“. Вярнуўся з стуль ён бяз зуба з павязанаю шыяй і з шумам у галаве. Аб гэтым заявіў Бруханскі старосьце. Але ці паможа?!

# Паштовая скрынка.

**Грам. Іскры.** Карэспандэнцыі Вашай ня зьмесьцім, бо мала цікаўнага ў ёй.

Мо' будзе што цікаўнейшае, дык з ахвотай скарыстаем.

**Нядолі, Сіротцы С. С., Засульскаму:** Вашы карэспандэнцыі памесьцім у наступных намярох; у гэтым ня было месца.

**Сялянам з в. Дарохаў.** Пісьмо Вашае перадалі ў Соймавы Клюб Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

**Жыхару Нова-Дворскай гм. Санольскага павету.** Пісьмо Вашае аб забойстве польскім вучыцелем дзяўчынкі-вучаніцы аддалі ў Соймавы Клюб Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

**З гары чалавеку.** Вашу скаргу мы перадалі ў Соймавы Клюб Бел. Сял.-Раб. Гамады.

**Падарожнаму.** Карэспандэнцыі Вашай у гэтым нумары не зьмяшчаем, бо няма месца. Мыліўся фурман, калі баяўся жаліцца паслом з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, лічучы сябе вінаватым перад імі ў тым, што не галасаваў за № 16, паслы Бел. Сял.-Раб. Грамады бароняць, пасколькі маюць сілу, кожнага пакрыўджанага. незалежна ад таго, ці галасаваў ён за іх, ці не.

**Хлапцу, Гміннаму пісару, Самаму не свайму.** Пісьмы Вашы зьмесьцім у наступных намярох.

# Юрыдычныя парады.

**Ігнату Лук'янёнку.** Зьвярніцеся да Зямельнага Камісара ў Глыбокім.

**Аляксандру Бічу.** Калі ёсьць мэтрыка сьмерці брата, дык сястра можа прасіць Акружны Суд замяніць апеку і перадаць зямлю ёй.

**Ю. Лашуку.** Падаць у суд.

**Кастусю Саковічу.** Цяпер ужо позна, але папрабуйце зьвярнуцца ў Чыгуначную Дырэкцыю ў Вільні (Dyrekcja Kolejowa).

**Падпішчыку № 2291.** Трэба ведаць, калі памерла першая жонка бацькі і калі ён ажаніўся другі раз?

# Таварыства Белар. Школы у Вільні.

### І. Абшар дзеяльнасьці Таварыства.

Статут Таварыства Беларускай Школы ў траўні месяцы г. г. зацьверджаны на ўсю Польскую Рэспубліку. (Да гэтага часу ён быў зацьверджаны толькі на Віленскае Ваяводзтва).

### ІІ. Мэты і задачы Таварыства.

Таварыства Беларускае Школы мае на мэце: пашыраць і памагаць асьвеце сярод беларусаў, пашыраць беларускае школьніцтва і беларускую асьвету наагул (§ 1 і 2).

Паводле Статуту § 3, Таварыства **на ўсім абшары Польшчы мае права:** заклад, утрымліваць і падтрымліваць: народныя школы, курсы для дарослых няпісьменных, прытулкі, вучыцельскія курсы, народныя чытальні і бібліятэкі, школы сярэднія і вышэйшыя ўсялякіх тыпаў, закладаць народныя дамы дзеля асьветы і таварыскае гульні, арганізаваць курсы і лекцыі зьместу культурна-асьветнага, выдаваць і пашыраць беларускія школьныя кнігі, (падручнікі), навуковыя, пэдагагічныя і народныя газэты; даваць школьнай моладзі стыпэндыі, дапамогі і розную навуковую помач.

### ІІІ. Хто можа быць сябрам Таварыства.

Паводле Статуту § 9 сябрамі Т-ва могуць быць паўналетнія мужчыны і жанчыны паасобку, або той ці іншы гурток, які мае зацьверджаны статут, прыкладам: каапэратыў, гурток земляробскі, гурток моладзі, драматычны гурток і г. д.

Сябры Т-ва дзеляцца на памагаючых, запраўдных і пачэсных.

Сябрам памагаючым можа быць кожная асоба ці гурток, што выплачвае на мэты Т-ва няменш як 2 злоты ў год. Сябрам запраўдным можа быць кожная асоба, або праўная арганізацыя, што выплачвае адзін процант ад свайго заробку, а калі нельга ўстанавіць пастаяннага заробку, то 50 грошаў што-месяца. Пачэсных сябраў назначае Агульны Сход па прадстаўленьню Галоўнае Управы за асаблівыя заслугі на ніве беларускае асьветы.

Запраўдныя і пачэсныя сябры Т-ва маюць права: прымаць учасьце ў культурна-асьветнай працы, галасаваць на сходах, уносіць і падтрымліваць на сходах усялякія прапазіцыі, скіраваныя да правядзеньня ў жыцьцё задачаў Таварыства.

# Клецкая Беларуская Гімназія

**прыродна-матэматычнага тыпу, з прыгатаваўчай клясай**

даводзіць да ведама беларускага грамадзянства, што **прыймовыя экзамены** ў гімназіі ў канцы гэтага школьнага году адбудуцца ў наступныя тэрміны:

у І клясу—21, 22 і 23 чэрвеня; у ІІ, ІІІ, IV, V, VI і VII клясы—23, 24, 25 і 26 чэрвеня.

Заявы аб дапушчэньні дзяцей да экзаменаў, а роўна і аб залічэньні дзяцей малодшых узростаў у прыгатаваўчую клясу, падаюць іх бацькі або апякуны.

Да заяваў трэба далучыць:

1. Мэтрыку аб нараджэньні вучня;
2. Пасьведчаньне доктара аб прышчэпе воспы;
3. Дакумэнты аб папярэдняй адукацыі, калі пастпаючы вучыўся ў якой школе;
4. Фатаграфічную картку.

Калі кандыдату (кандыдатцы) мінула 14 гадоў і ён апошняе паўгодзьдзе ні ў якой школе ня вучыўся, дык трэба прадставіць яшчэ пасьведчаньне маральнасьці, якое можна атрымаць ад сьвяшчэньніка ці ксяндза, гміннага ўраду, староства або паліцыі. Вучні старэйшых аддзелаў польскіх пачатковых школ прымаюцца ў адпаведныя малодшыя клясы гімназіі бяз экзаменаў — IV аддзел прыраўноўваецца пры гэтым да І клясы; скончыўшыя аднак VII аддзелаў могуць быць прыняты бяз экзаменаў толькі ў IV кл. гімназіі.

**Дырэкцыя.**

Цэнтральным Сэкрэтарыятам Беларускай Сялянска-Работніцкае Грамады выдадзена кніжка—**Праграма і Арганізацыйны Статут Грамады.**

Апрацавана і на гэтых днях выйдзе з друку другая кніжка—**Інструкцыя аб тым, як тварыць арганізацыі Белар. Сялянска-Работніцкае Грамады на мяйсцох.** У Інструкцыі, апрача падробнага выясьненьня парадку тварэньня Гурткоў Грамады, зьмешчаны і выпіскі з істнуючых Законаў і распараджэньняў аб сходах, сабраньнях публічных і прыватных, аб мітынгах і аб магчымасьці працы такіх легальных палітычных партый, як нашая Грамада.

Кніжкі гэтыя па цане кожная 20 грошаў, можна набываць у Цэнтральным Сэкрэтарыяце. Там-жа можна дастаць і кніжку — **Прамовы паслоў Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады ў Польскім Сойме.**

*Цэнтральны Сэкрэтарыят*
*Вільня, Віленская вул. № 12, кв. 7.*

Адказны-Рэдактар: **Ал. Вільчыцкі.** Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**